

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

**№1 (183) СТУДЗЕНЬ 2015 ГОД**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЗАЎВАЖЫЦЬ ГЛАБАЛЬНЫЯ ВЫКЛІКІ…

**2014 год непазнавальна змяніў свет. Наогул за апошняе дваццаціголдзе ён змяняўся настолькі хутка, што большыня не паспявала не тое, каб асэнсоўваць гэтыя перамены, яно не паспявала нават фіксаваць іх у сваёй памяці. Асабліва заўважным гэта было на постсавецкай прасторы, дзе ад насельніцтва даўно нічога не залежыць, дзе міфы даўно замянілі рэальнасць, а думаць трэба толькі пра фізічнае выжыванне.**

Апошнім часам, калі каўбасна-вантробныя праблемы з большага былі вырашаны, усе, у каго зьявіліся халяўныя грошы, кінуліся ўкладаць іх ў нерухомасьць, аўто і "новую жизнь".

Ацверазенне цывілізаванага свету пасля катарсісу ўкраінскага Майдану было амаль рэвалюцыйным, але ягоны ўплыў даволі слаба закрануў Беларусь і ягонае людства. І калі заходні сьвет напрыканцы году спрытна зьмяняў свае ранейшыя прыярытэты, мадэлі і стэрыятыпы ўзаемадачыненняў з краінамі і супольнасцямі, беларусам было да ўсяго гэтага, проста кажучы, фіялетава. Яны даволі ўдала скарысталіся з расейскага крызісу, з выгадай набываючы ў тамтэйшых аўтасалонах новенькія легкавікі ды іншую замежную тэхніку ў крамах, каб ўтульнага і бесклапотнага сустрэць пятнаццаты год новага тысячагоддзя – толькі 50 тысячаў аўтамабіляў было ўвезена ў краіну літаральна за месяц. Так, нейкія змены ў свядомасці адбыліся і тут: прыйшла мода на вышыванкі і беларускую мову, але ці паўплывала гэта хоць неяк адносна на абывацельскае асяроддзе? І хто акрамя чытачаў і пішучай братвы гэта заўважыў?

Пачатак 2015-га падцвердзіў вышэй памянёныя заўвагі – мірна і бесклапотна, як гэта было да акупацыі расейцамі Крыму, Данбасу і Луганшчыны, ужо не будзе.

7 студзеня адбыўся напад на рэдакцыю сатырычнага часопіса "Charlie Hebdo" ў Парыжы. Трое ўзброеных мужчынаў з крыкамі «Алах Акбар» і «Мы адпомсцілі за прарока» адкрылі агонь па людзях у рэдакцыі. Загінулі 12 чалавек, у тым ліку галоўны рэдактар выдання, яшчэ 11 атрымалі раненні. Пазней у «Аль-Каідзе» пацвердзілі дачыненне да нападу на будынак штотыднёвіка. Маўляў, напад быў здзейснены ў мэтах помсты за прарока Мухамеда, карыкатуры на якога друкавала выданне.

У пятніцу, 9 студзеня яшчэ адзін тэрарыст захапіў закладнікаў у парыжскім супермаркеце… Бацыла расейскай "гібрыднай вайны" пачала расцякацца па свеце людской кроўю і слязьмі, а тэрарызм зрабіўся сродкам палітычнага ўплыву.

Яшчэ ў 2010, калі пад Смаленскам упаў самалёт, празорца Валерыя Навадворская сцвярджала, што гэта вынік расейскай спецаперацыі. Тады ёй мала хто верыў. Зараз пасля цэлага шэрагу акалічнасцяў у тым ліку і збіцця малазійскага боінга над Украінай ейны верны сябар Канстанцін Баравы ўжо не сумняваецца, што за парыжскімі падзеямі стаіць не толькі "Аль-Каіда", але і расейскія спецслужбы, якія даўно з ёй супрацоўнічаюць.

Старшыня партыі "Заходні выбар" К. Баравы лічыць: тэрарыстычны акт зроблены Крамлём дзеля радыкалізацыі сітуацыі ў Францыі і Еўропе, дзеля нанясенне істотнага ўрону еўрапейскай стабільнасці і адцягнення ўвагі ад падзей ва Украіне.

Аднак тыя, хто здзейсніў гэтыя злачынствы пралічыліся: на гвалтоўны выклік цывілізаваны свет адказаў кансалідацыяй і непахіснасцю сваіх дэмакратычных перакананняў.

У Парыжы прайшоў марш у памяць ахвяраў тэрактаў, у якім прынялі ўдзел сотні тысячаў грамадзянаў Еўропы. Нядзельная акцыя атрымала назву "рэспубліканскі марш" ці "марш адзінства", чынны ўдзел у ім ўзялі канцлер Нямеччыны Ангела Меркель, брытанскі прэм'ер-міністр Дэвід Кэмеран, прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка, Беларусь прэзентаваў парыжскі амбасадар Павал Латушка…

Еўропа ачуняла пасля цывілізацыйнага выкліку з боку Расеі. Ці ачуняе тутэйшае людства сказаць цяжка, хаця верыцца ў гэта слаба. Хутчэй за ўсё яно ізноў паспрабуе не заўважаць глабальных выклікаў, хаваючыся ў бульбу альбо за шырокія "бацькавы" плечы.

**Аляксандр Шчамлёў**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

НУ І НУ!..

## КАК ШУМИЛИНЦЫ ПОПАЛИ В ДОЛГОВУЮ ЯМУ

**В Минск возили провинциалов, желающих получить 3 миллиона, и вешали на них кредиты. Теперь легковерные жители райцентра в Витебской области должны выплатить банку более чем по 40 миллионов**

История эта началась год назад. Накануне нового, 2014 года, 30 декабря, в Минск приехал микроавтобус с пятью жителями Шумилино. Их высадили около одного из банков и раздали всем бумажки-шпаргалки. «Зарплата - семь восемьсот, телефон бухгалтерии такой-то, организация называется так-то».

*- Ну что, выучили?* - время от времени справлялись парни, которые привезли группу. Когда все более-менее зазубрили легенду, людей повели в кредитный отдел банка.

*- Зарплата - семь восемьсот!* - бодро рапортовали шумилинцы.

*- Где работаю? Ой, сейчас,* - заглядывали некоторые одним глазом в бумажку.

После заполнения документов всех отправили погулять минут на десять-двадцать. За это время банк успел принять решение о выдаче шумилинцам крупных кредитов, а сами они - заскочить в салон связи и прикупить в кредит по мобильнику. Мобильные телефоны, пластиковые карточки с лежащими на них 25 - 30 миллионами и конвертики с пин-кодами быстренько собрали те самые молодые люди, что заставляли людей учить легенды. Взамен пятеро шумилинцев получили по три миллиона наличными. Домой возвращались довольными - где еще можно сорвать такой куш за один день, фактически ничего не делая? Уж точно не в скромном райцентре. О том, кто будет рассчитываться с кредитами, провинциалы не задумывались - ну сказали же им ни о чем не беспокоиться, значит, не обманут…

Новый год шумилинцы встречали весело и с размахом. А в августе 2014-го грянул гром.

*-Людям начали приходить требования о выплате сумм, значительно превышающих те, которые они якобы получили в качестве кредита. Так, женщина, которая оформила на себя кредит в 25 миллионов рублей, к августу задолжала банку более 42 миллионов,* - рассказала судья суда Первомайского района Витебска Ольга Иванова.

Та же пятерка обманутых шумилинцев собралась и поехала в столицу уже за свой счет. Пытались призвать к ответу - кого? Банк закон не нарушал. Оказалось, шумилинцы попали как раз на десятидневную акцию, в ходе которой всем желающим раздавали очень быстрые кредиты под очень высокие проценты, зато совершенно без справок и каких-либо проверок. О предприимчивых парнях, которые свозили их в столицу, никто из обманутых ничего не знал.

Была одна зацепка - женщина, которая так исподволь, ненавязчиво посоветовала своим соседям и знакомым легкий способ заработка. Но с этой дамой никого из пострадавших формально не связывали никакие договоры - не то что документа с печатью, но и завалящей расписки на клочке бумаги не было. Так что правовых основ для того, чтобы стребовать с нее деньги, на которые попали пострадавшие, формально нет.

*- Эта женщина тоже оформила на свое имя кредит для мошенников,* - рассказала Ольга Иванова. *- Правда, получила она за услугу не три, а пять миллионов. Столько же, по ее словам, получала и за каждого привлеченного в мошенническую схему человека. Предположительно, она «завербовала» не менее двух десятков человек.*

2015 год доверчивые шумилинцы встречали куда скромнее - 20% от своих зарплат они теперь отдают банку. Средняя зарплата у пострадавших - 2,5 - 3 миллиона рублей. Выходит, попали любители халявы в долговую яму лет на восемь.

**Наталья Партолина, «КВ в Беларуси»**
**www.kp.by/daily/26329.3/3211252**

ПЬЯНСТВУ – БОЙ!

## "ГАСТРОЛІ" ПРАЦЯГВАЛА І Ў ОБАЛІ

**У горпасёлку на выязным судзе разглядалася справа шматдзетнай жанчыны, якая, пераехаў з Віцебску, п'янымі скандаламі перашкаджала жыць суседзям.**

На лаве падсудных – 56-гадовая жанчына, якая раней неаднаразова прыцягвалася да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці за распіццё спіртнога ў грамадскіх месцах і п'яныя скандалы. На судовым пасяджэнні, якое праходзіла ў будынку Обальскага сельсавета, прысутнічала поўная зала мясцовых жыхароў, у пераважнай большасці пенсіянераў.

Як высветлілася, падсудная грамадзянка В. доўгі час вяла асацыяльны лад жыцця. За яе плячамі – трое народжаных дзяцей, якіх дзяржава адабрала за недагляд і пазбавіла бацькоўскіх правоў, развод, некалькі судзімасцяў, беспрабудная п'янства і разгульнае жыццё.

Перадусім аказалася, якім ветрам сумніўную асобу занесла ў наш раён. Карэнная жыхарка горада Віцебска спачатку была выселена з кватэры за даўгі па квартплаце, а пасля гэтага трапіла ў горпасёлак Обаль.

Але і ў нашым раёне на шлях выпраўлення нядбайная грамадзянка не стала. Па-ранейшаму працягвала распіваць спіртныя напоі ў "гарачай кампаніі" і з'яўляцца ў грамадскіх месцах у п'яным выглядзе. Скандалы працягваліся. Аднойчы "пад градусам" завітала па суседству да пенсіянеркі, каб прадаць каўбасу за бутэльку. Аднак і гэтага паказалася мала – скандалістка пачала вымагаць у 72-гадовай жанчыны грошы з лаянкай ды штурханінай.

Шумілінскі суд палічыў, што выпраўленню і перавыхаванню грамадзянкі В. будзе спрыяць пакаранне ў выглядзе штрафа памерам у 7,5 мільёна рублёў і прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

**Уладзімір Амбросаў**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# НЕСПРЫЯЛЬНЫ ДЛЯ ВЫТВОРЧАСЦІ СЕЛЬГАСПРАДУКЦЫІ

**У Беларусі зацверджаны пералік раёнаў, якія адносяцца да неспрыяльных для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Трапіў у гэты спіс і Шумілінскі раён, як яшчэ 17 раёнаў вобласці.**

62 раёны прызнаныя неспрыяльнымі для вытворчасці сельгаспрадукцыі

Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 сьнежня 2014 г. №1277, апублікаваным у сераду на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Неспрыяльным для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі прызнаецца раён, на тэрыторыі якога ў сувязі з прыродна-кліматычнымі, глебавымі, экалагічнымі і сацыяльна-эканамічнымі паказчыкамі (фактарамі) арганізацыя высокарэнтабельнай (прыбытковай) вытворчасці суб'ектамі, якія ажыццяўляюць дзейнасць у галіне аграпрамысловай вытворчасці, за выключэннем грамадзян,якіявядуцьасабістыя (падсобныя) гаспадаркі, не ўяўляецца магчымай.

Да прыкладу, неспрыяльным прызнаюцца наступныя раёны ў Віцебскай вобласці - Бешанковіцкі, Браслаўскі, Верхнядзвінскі, Віцебскі, Глыбоцкі, Гарадоцкі, Докшыцкі, Лепельскі, Лёзненскі, Міёрскі, Полацкі, Пастаўскі, Расонскі, Сенненскі, Ушацкі, Чашніцкі, Шаркаўшчынскі, Шумілінскі.

У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку аднясення раёнаў да неспрыяльных для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, зацверджаным пастановай Саўміна ад 15 жнівень 2014 г. №796, крытэрамі аднясення раёнаў да дадзенай катэгорыі з'яўляюцца: бал кадастравай ацэнкі сельскагаспадарчых зямель сельскагаспадарчага прызначэння; удзельная вага сельскагаспадарчых зямель, забруджаных радыёнуклідамі цэзія-137 і стронцыю-90 з узроўнем іх утрымання ад 1 Кі / кв. км і вышэй і 0,15 Кі / кв. км і вышэй адпаведна, у агульнай плошчы сельскагаспадарчых зямель сельскагаспадарчага прызначэння за справаздачны перыяд; удзельная вага насельніцтва ў працаздольным узросце ў агульнай колькасці насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі раёна; ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя за апошні справаздачны год.

Фарміраванне пераліку раёнаў, якія адносяцца да неспрыяльных для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, ажыццяўляецца Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання сумесна з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі адзін раз на пяць гадоў на падставе інфармацыі, якая прадстаўляецца Дзяржаўным камітэтам па маёмасці, Нацыянальным статыстычным камітэтам, Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны, аблвыканкамамі і іншымі зацікаўленымі арганізацыямі і установамі.

**Паводле “interfax”**

РЭХА ВАЙНЫ

# МІНА НА ДАРОЗЕ

**Паблізу вёскі Амбросавічы на абочыне дарогі мясцовым жыхаром была знойдзена міна Другой сусветнай вайны.**

Напачатку снежня жыхар аграгарадка Амбросавічы спадар Аляксандр ехаў на спадарожнай машыне ў райцэнтр Шуміліна. На пад'ёме легкавік скінуў хуткасць, і раптам пасажыр краем вока заўважыў амаль каля праезжай часткі падазроны прадмет. "Снарад ці што" - прамільгнула думка. Каб канчаткова ўпэўніцца ў сваёй думцы, папрасіў вадзіцеля спыніцца, яны разам выйшлі з машыны.

Калі падыйшлі бліжэй, то сумневу не было - на абочыне ляжала самая сапраўдная, толькі іржавая міна Другой сусветнай вайны.

Аб небяспечнай знаходцы вяскоўцы неадкладна паведамілі ў Шумілінскі райваенкамат і міліцыю. Былі вызваны сапёры з Віцебска, якія і абясшкодзілі неразарваны боепрыпас.

Як чынам міна трапіла на абочыну дарогі? Відовачцы сцвярджаюць, што ў гэты дзень самазвалы вазілі пясок з кар'ера вёскі Пятніцкія і Лескавічы. Апроч таго, шумілінскія дарожнікі пасыпалі праезжую частку пясчанай сумессю супраць галалёду. Выглядае праўдападобна, што міна магла вываліцца з кузава грузавіка з пяском або высыпацца з бункера раскідвальніка разам з пясчанай сумессю. А трапіла ў дарожныя машыны разам з пяском, які бралі ў кар'еры. Вось такое рэха вайны.

Як бы там ні было, але нашы грамадзяне праявілі пільнасць і своечасова паведамілі аб небяспечнай знаходцы ў адпаведныя органы. Вялікі дзякуй ім за гэта!

**Алесь Шумскі**

ПРАВАПАРАДАК

# ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ БЯСПЕКУ ДЗЯЦЕЙ У ШКОЛАХ

**У Віцебскай вобласці, у тым ліку і ў райцэнтры Шуміліна, дрэнна забяспечвалася бяспека дзяцей у школах.**

Органамі пракуратуры Віцебскай вобласці сумесна з падраздзяленнямі па надзвычайных сітуацыях і органамі санэпідэмнагляду праведзены праверкі ва ўстановах адукацыі, у ходзе якіх выяўлены шматлікія парушэнні патрабаванняў заканадаўства.

Як паведамляе генпракуратура, у навучальных установах Віцебскага, Лепельскага, Дубровенскага раёнаў выяўлены парушэнні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі. У прыватнасці адсутнічалі першасныя сродкі пажаратушэння, некаторыя з іх былі няспраўныя, пажаранебяспечныя прадметы бязладна складзіраваліся.

Падвышаная небяспека траўміравання дзяцей на шляху руху ў школу і з яе адзначана ў Наваполацку, пасёлку Шуміліна (стыхійныя паркоўкі аўтатранспарту пад вокнамі школ і каля ўваходу, істотна дэфармаваныя дарожныя няроўнасці).

У Гарадку, Оршы, Віцебску ўстаноўлены факты правядзення рамонтных работ падчас знаходжання ў школе навучэнцаў.

Па выніках праверак падрыхтавана 24 акты пракурорскага нагляду. Пракуратурай Віцебскай вобласціўВіцебскіаблвыканкам накіравана адпаведная інфармацыйная запіска, тэкст якой даведзены да ведама кіраўнікоў гар-райвыканкамаў.

Па выніках разгляду інфармацыйнай запіскі прынятыя арганізацыйна-практычныя меры па ліквідацыі адзначаных недахопаў. Парушэнні пажарнай бяспекі, санітарна-гігіенічных нормаў зліквідаваны ў поўным аб'ёме ў 15 установах адукацыі.

Фінансаванне мерапрыемстваў па правядзенні рамонтных работ на іншых аб'ектах ўключана ў планы на 2015 год.

За адсутнасць належнага кантролю за выкананнем заканадаўства аб забеспячэнні бяспекі дзяцей 14 службовых асоб устаноў адукацыі вобласці прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

**Паводле “Ежедневник”**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# АБРАБАВАЎ МАЦІ РОДНУЮ

**Непрацуючы мужчына, пад цягам матэрыяльных праблем, не прыдумаў нічога лепшага, як абрабаваць уласную маці.**

У нармальных з цвярозым розумам людзей ў галовах не ўкладваецца, як гэта можна красці ў родных і блізкіх. Аднак грамадзянін П. ухітрыўся пасеяць гэта зло ў сябе дома.

27 снежня да супрацоўнікаў шумілінскай міліцыі звярнулася непрацуючая жанчына 1965 нараджэння з заявай аб тым, што каля 13 гадзін з яе незачыненага дома прапаў ноўтбук. Нанесены ўрон саставіў 4 мільёны рублёў.

Папярэдне ўстаноўлена, што злачынства ўчыніў сын гаспадыні дома - непрацуючы 1982 года нараджэння. Супраць мужчыны была ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

**Па зводках УУС**
**Сяржук Горкі**

# ЗЛОДЗЕІ АБАКРАЛІ ДОМ

**Невядомыя ўзламалі дзвярныя запоры, праніклі ў дом шумілінца і скралі рэчы.**

У міліцыю звярнуўся непрацуючы 1987 года нараджэння. Мужчына паведаміў, што неўсталяваны злачынец, узламаўшы дзвярныя запоры, пракраўся ў яго дом і здзейсніў крадзёж хатніх рэчаў.

З дома прапалі: тэлевізара DVD-плэер, электранаждак і электрарухавік. Нанесеная шкода мае памер у адзін мільён рублёў.

Як высветлілі супрацоўнікамі АУР РАУС, злачынства здзейснілі аднавяскоўцы - непрацуючыя 1987 і 1988 года нараджэння. Узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

# НАЧНЫ ПАЖАР

**У вёсцы Губіца згарэў жылы дом і хлеў**

Пажар ў жылым доме пачаўся 26 снежня ў палове трэцяй гадзіны ночы. У доме памерам 6х8 метраў, які належыць непрацуючай грамадзянцы 1973 года нараджэння, агнём поўнасцю знішчаны дах, паталочнае перакрыцце, маёмасць, пашкоджаны сцены.

Згарэў хлеў 5х6м, у аўтамабілі Рэно Сцэнік пашкоджаны капот і бампер. Прычына пажару высвятляецца.

**Па зводках МНС**
**Сяржук Горкі**

# ПАЖАР У НАВАГОДНЮЮ НОЧ

**У вёсцы Слабада па вуліцы Афанасьева загарэлася кватэра. Агнём пашкоджана маёмасць, пацярпеў гаспадар.**

У навагоднюю ноч каля 5 гадзін раніцы паступіла паведамленне аб пажары ў вёсцы Слабада Сіроцінскага сельсавета па вуліцы Афанасьева. Пасля прыбыцця да месца выкліку ратавальнікаў падраздзялення МНС Шумілінскага раёна назіралася задымленне і гарэнне ўнутры кватэры, размешчанай на другім паверсе.

52-гадовы гаспадар, жывёлавод саўгаса "Сіроцінскі" на момант пажару знаходзіўся ў кватэры. Яму пашанцавала - мужчына своечасова прачнуўся, выйшаў з падпаленай кватэры, і гэта выратавала яму жыццё. Аднак, усё ж такі пацярпеў: паспеў атрымаць апёкі 1-2-й ступені (каля 40% цела). Брыгадай хуткай медыцынскай дапамогі быў адвезены ў раённую бальніцу.

У выніку пажару ў кватэры агнём пашкоджана маёмасць, закураны сцены, стол.

Папярэдняя версія ўзнікнення пажару - неасцярожнасць пры курэнні гаспадара.

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання ящчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# БАРАЦЬБУ З ДАРМАЕДАМІ ПАЧАЛІ З ПЕНСІЯНЕРАЎ?

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ў межах кампаніі па барацьбе з так званымі дармаедамі распрацавала праект дакумента, у якім прапісаныя меры па ўключэнню непрацуючых працаздольных грамадзян у працоўную дзейнасць. Пра тое, якія меры прадугледжвае дакумент, чыноўнікі пакуль не кажуць.**

Як адзначыў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Валеры Кавалькоў, дакумент яшчэ не прыняты і цяпер знаходзіцца ў Адміністрацыі прэзідэнта. Пра тое, калі ж грамадскасць даведаецца, што за сюрпрыз чыноўнікі падрыхтавалі непрацуючым суграмадзянам, невядома. Як адзначыў намеснік міністра, рашэнне ў гэтым выпадку павінен прыняць кіраўнік дзяржавы.

Валеры Кавалькоў толькі адзначыў, што тэрмін «дармаед» у Беларусі не ўзаконены, а праект дакумента рыхтаваўся ў адпаведнасці з палажэннямі Канстытуцыі.

Нагадаем, Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду прымусіць працаваць тых, хто афіцыйна нідзе не працуе, да 1 студзеня 2015 года. *«Любымі спосабамі, якія мы ведаем і ўмеем рабіць, трэба прымусіць гэтых людзей працаваць!* - падкрэсліваў Лукашэнка на нарадзе 20 кастрычніка. - *Да 1 студзеня прыняць меры, каб усе працавалі, прымусіць усіх працаваць!»*

На тым жа нарадзе Лукашэнка прывёў і некаторыя лічбы. Так, па яго дадзеных, *«каля 500 тысяч нашых грамадзян не задзейнічаны ў эканоміцы краіны». «Хай 100 тысяч - гэта хатнія гаспадыні і што працуюць на ўласным падворку. А 400 тысяч чым займаюцца? За чый кошт жывуць?»*- Задавалася пытаннямі кіраўнік дзяржавы.

Ён даручыў тагачаснаму кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову і дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі Аляксандру Мяжуеву ўнесці прапановы па гэтай праблеме і да канца года далажыць аб праведзенай працы.

Лукашэнка тады таксама падтрымаў ініцыятыву Міністэрства ўнутраных спраў, якое прапанавала вярнуць норму, якая дазваляла прыцягваць да адказнасці грамадзян, якія не працуюць і ўхіляюцца ад працаўладкавання.

Эксперты звярталі ўвагу, што ўлады разгарнулі кампанію ня супраць дармаедаў, а супраць тых, якія працуюць нелегальна. Маўляў, дзяржава зацікаўлена, каб падаткі плаціліся спраўна, а сродкі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) паступалі ў дастатковай колькасці. Бо каля 70% падатковай нагрузкі ў Беларусі прыпадае на адлічэнні прадпрыемстваў у ФСАН.

Будуць праблемы з напаўненнем фонду, пад пагрозай апынецца выплата дапамог, бальнічных і, у першую чаргу, пенсій. А так як дзяржава пакуль не прадпрымае ніякіх мер па рэфармаванні пенсійнай сістэмы, то, такім чынам, будзе шукаць любыя спосабы фонд папоўніць.

Адзін з іх - павелічэнне перыяду абавязковых выплат у ФСАН. Так, з 1 студзеня 2015 года павялічаны мінімальны стаж працы для прызначэння пенсіі па ўзросту і пенсіі за выслугу гадоў з 10 да 15 гадоў.

*«Рэалізацыя гэтых мер дасць магчымасць узмацніць значнасць стажу ў памеры пенсіі і матывацыю работнікаў да доўгай легальнай працоўнай дзейнасці і абмяжуе ўтрыманскія настроі»*, - адзначыў Валеры Кавалькоў.

Да 2014 года мінімальны працоўны стаж, неабходны для прызначэння пенсіі па ўзросту і пенсіі за выслугу гадоў, складаў 5 гадоў, аднак з 1 студзеня 2014 года ён быў павялічаны да 10 гадоў, а з 1 студзеня 2015 года - да 15 гадоў. Акрамя таго, з 2015 года для грамадзян, якія не маюць мінімальны стаж працы, прадугледжана павелічэнне пенсійнага ўзросту да 60 гадоў у жанчын і 65 - у мужчын.

Валеры Кавалькоў не змог сказаць, колькі людзей пенсійнага ўзросту ў цяперашні час не маюць 15-гадовага стажу працы, паколькі «ацэнка працоўнага стажу робіцца на момант, калі яны прыходзяць у пенсійную сістэму».

Паводле ацэнак Мінпрацы, такіх людзей у Беларусі можа быць прыкладна 5-10 тысяч чалавек.

Што рабіць тым, хто ў сілу розных прычын не адпрацаваў неабходную колькасць гадоў для прызначэння працоўнай пенсіі?

*«Давядзецца дапрацаваць,* - сказаў Валеры Кавалькоў. - *Калі не хапае 15 гадоў працоўнага стажу, пенсія прызначаная не будзе: жанчыне ў 60 гадоў, мужчыну - у 65 будзе прызначаная сацыяльная пенсія, але гэтая пенсія складае 50% пражытачнага мінімуму і сёння складае 700 тысяч рублёў».*

Намеснік міністра дадаў, што ў краіне няма напружання на рынку працы - на кожнага афіцыйна беспрацоўнага прыпадае дзве вакансіі. Адным словам, працу знайсці нескладана. Іншая справа, што большасць прапаноў не карыстаюцца попытам з-за нізкіх заробкаў.

**Алена Спасюк**
**БЕЛАПАН**

СВАБОДА СЛОВА

# ПАРИЖСКИЙ ТЕРАКТ ОТОЗВАЛСЯ ГРОЗНЫМ ЭХОМ В РОССИИ

**То, что представители «Исламского государства» приветствовали расстрел во французской столице, удивления не вызывает. Но вот есть такая организация, как Союз муфтиев России, которая, по религиозным меркам, считается центристской. И поэтому её позиция впечатляет гораздо больше.**

Союз муфтиев России выступил с заявлением, в котором гневно осудил теракт в Париже. Но! Читаем документ дальше и узнаем, что, оказывается, грех провокации в нашем мире не менее опасен для сохранения мира, чем грех тех, кто на эту провокацию способен поддаться. *«Оскорбление чувств верующих недопустимо, как и недопустимы любые проявления экстремизма, любое посягательство на жизни мирных людей»*, — считают в организации.

В итоге киллеров и их жертв поставили на одну доску. Более того, между строк можно прочитать, к кому из них на самом деле хуже относятся российские муфтии. Журналисты Charlie Hebdo, по сути, названы провокаторами, а террористы «всего лишь» поддавшимися на провокацию.

Но, позвольте, с каких пор шутка, пусть даже и неудачная, стала считаться не меньшим грехом, чем хладнокровное убийство безоружных людей?..

Вывод «сами виноваты» в отношении случившегося в Париже вообще получил в России достаточно широкое распространение. Вот писатель Сергей Шаргунов интервью «Эху Москвы» начинает с того, что «сходил в храм Божий, как всегда делаю на Рождество». Потом коротко упоминается «варварский террористический акт». После чего начинаются пространные рассуждения: *«Это повод поразмышлять о границах дозволенного в журналистике... Очевидно, что мир оказался в такой ситуации, что это кого-то очень сильно оскорбляет, если это бьет по чужим религиозным чувствам, то каждый раз человек, который снова и снова идет на это, он знает, что не надо рисовать карикатуры на пророка Мухаммеда, он понимаем, чем рискует – рискует своей головой. Значит, журналисты отдавали себе отчет, что они рискуют своими головами».*




На самом деле, исходя из подобной логики, можно обосновать убийство практически любого человека. Всегда кто-то может расценить чьи-то действия как провокацию. Абсолютное большинство жертв исламских террористов не рисовали карикатуры на Пророка, но это не помешало бандитам их убить. Просто потому что они бандиты. А повод... Повод всегда найдется.

Печально, что очень многие в России этого не понимают. Да и в Беларуси наверняка хватает тех, кто думает подобным образом. Но случившееся в Париже заставляет задуматься: на чьей мы стороне пусть даже чисто морально? Потому что это тот случай, когда или – или. И если позиция «я осуждаю, но...» становится главенствующей, значит, террористы достигли своих целей.

**Александр Старикевич**
**"Салідарнасць"**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АПАЗІЦЫЯ НЯ ГУБЛЯЕ НАДЗЕІ ДАМОВІЦЦА

**Здольнасць апазіцыі дамовіцца аб вылучэнні адзінага Кандыдата ў прэзідэнты на ВЫБАРЫ 2015 "залежыць ад палітычнай выспеласці апазіцыйных суб'ектаў".**

Такое меркаванне выказаў у каментары БелаПАН палітолаг Валер Карбалевіч. Ён адзначыў, што сітуацыя ў краіне ў апошні час змянілася. «Да гэтага часу лічылася, што прэзідэнцкія выбары будуць прахаднымі, дзяжурнымі, а таму наогул не мае значэння, два-тры кандыдаты будзе ці адзін. Але цяпер, на фоне фінансава-эканамічнага крызісу, сітуацыя змянілася. Гэта значыць, што тактыка апазіцыі будзе мець вялікае значэнне на выбарах 2015 года », - перакананы палітолаг.

Для старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоля Лябедзькі «больш важным быў бы вынік выйсця не столькі на адзінага кандыдата, колькі на адзіны сцэнар дзеянняў». «Калі ў апазіцыі будзе адзіны сцэнар дзеянняў, агульны план, то ў ім можа быць і адзін, і некалькі спікераў. Хоць не будзем выключаць і магчымасці вырашэння пытання па адзіным кандыдату ", - заўважыў палітык.

Старшыня руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, які ўдзельнічаў у прэзідэнцкай кампаніі 2006 года як адзіны кандыдат ад апазіцыі, перакананы: надзеі на выхад на адзінага кандыдата ад "ніколі нельга губляць». «Хоць шанцаў вельмі мала. Здарылася тое, што здарылася. Чым слабейшы апазіцыя, тым менш у яе прыкладаў працы з грамадствам і тым больш яна думае аб фармальных рэчах: хто спікер, каго часцей прымаюць за мяжой », - сказаў Мілінкевіч.

Пры гэтым ён са шкадаваннем дадаў, што ў апазіцыі «ідзе ўнутраная барацьба», якая аслабляе дэмакратычныя сілы.

Як паведамлялася раней, 17 лістапада пяць апазіцыйных партый і арганізацый падпісалі ў Мінску пагадненне аб працэдуры вылучэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах. У ліку тых, хто падпісаў пагадненне Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух "За Свабоду", кампанія «Гавары праўду», Партыя БНФ і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Між тым перамовы аб абранні адзінага кандыдата вялі сем апазіцыйных структур: названыя арганізацыі, а таксама Беларуская партыя левых «Справядлівы свет» і Аб'яднаная грамадзянская партыя. Прадстаўнікі двух апошніх ўзялі час падумаць, ці варта ім далучацца да гэтага пагаднення.

Чакаецца, што адзіны кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі будзе вызначаны на кангрэсе дэмакратычных сіл, які павінен прайсці гэтай вясной.

Выбары прэзідэнта павінны прайсці не пазней за 20 лістапада.

**Прэс-служба**
**"Рух "За Свабоду!"**

ДЫКРЭТ №5

# ДЗЯРЖАВА НАСТУПАЕ НА СТАРЫЯ ГРАБЛІ

**Нізкая эфектыўнасць работы прадпрыемстваў, праблемы кіравальнасці эканомікай даўно сталі галаўным болем чыноўнікаў, разабрацца з якой паспрабавалі праз прыняцце прэзідэнцкага дэкрэта № 5. Аднак рэалізацыя яго палажэнняў не прывядзе да мэты.**

Сапраўды, статыстыка малюе змрочную карціну. Так, 55% дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў стратныя, ды і з прадукцыйнасцю працы за апошнія гады сітуацыя значна не палепшылася.

Так, па апошніх дадзеных, Беларусь па прадукцыйнасці працы адстае ад узроўню краін Еўрапейскага саюза ў чатыры разы. Улады ў спробах палепшыць гэты паказчык ўвялі механізм залежнасці зарплаты ад прадукцыйнасці працы: ёсць рост прадукцыйнасці - будзе і рост заробкаў, інакш ніяк. Аднак і гэтая мера слаба паўплывала на сітуацыю.

Эксперты даўно заяўлялі аб назапашаных дысбалансу ў гэтай сферы, неабходнасці структурных рэформаў. Аднак улады ў чарговы раз вырашылі выкарыстаць старыя сродкі.

**Зноў вырашана закруціць гайкі**

Пяты дэкрэт атрымаўся досыць традыцыйным для айчыннага заканадаўства. Асноўная стаўка зроблена на тое, што чарговае ўзмацненне жорсткасці патрабаванняў з боку дзяржавы да работнікаў і кіруючаму складу дазволіць вырашыць праблемы прадпрыемстваў і арганізацый, эканомікі ў цэлым.

Падпісанне дэкрэта выклікала хвалю крытыкі ў незалежных СМІ, бо многія нормы гэтага дакумента супярэчаць працоўным заканадаўстве і пагаршаюць умовы працы работнікаў прадпрыемстваў. У дадатак дзеянне дакумента распаўсюджваецца на арганізацыі ўсіх форм уласнасці, а гэта азначае ўзмацненне ўмяшання дзяржавы ў справы прыватнага бізнесу.

Зрэшты, улічваючы спецыфіку працы прафсаюзаў у Беларусі, можна канстатаваць: якое б ні было працоўнае заканадаўства, казаць аб яго выкананні і рэальнай абароне правоў работнікаў не прыходзіцца. Што ж да ўмяшання ў справы бізнэсу - то гэта далёка не першы і не апошні выпадак, падобны падыход не з'яўляецца сюрпрызам.

Пытанне ў іншым: дзеля чаго ўлады пайшлі на такія меры? Прынядце гэтага нарматыўна-прававога акта, хутчэй за ўсё, стане чарговай памылкай, на якіх беларускія чыноўнікі, на жаль, не вучацца. Яго нормы не толькі не здольныя палепшыць сітуацыю, а хутчэй наадварот - толькі абвастрыліся супярэчнасці.

У першым выпадку размова ідзе пра прэзідэнцкай дырэктыве 2004 года «Аб мерах па ўмацаванні грамадскай бяспекі і дысцыпліны». Яна таксама была накіравана на ўзмацненне жорсткасці патрабаванняў да работнікаў і кіраўнікам, павышэнне іх адказнасці. Выніку, калі меркаваць па сённяшнім становішчу спраў, дакумент не даў.

Другі сугучны па духу нарматыўны акт - дэкрэт № 9 "Аб дадатковых мерах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці" (2012 год).

Гэты дэкрэт таксама выйшаў досыць спрэчным і таксама прадугледжваў закручванне гаек на прадпрыемствах дрэваапрацоўчай прамысловасці з мэтай павышэння эфектыўнасці іх работы.

З-за некаторых змяшчаюцца ў ім мер, напрыклад абмежаванні на магчымасць звальнення з прадпрыемства, аглядальнікі метафарычна загаварылі аб увядзенні прыгоннага права.

Аднак і гэты дакумент, нягледзячы на досыць жорсткі характар, не змог палепшыць сітуацыю ў дрэваапрацоўцы.

У цэлым, калі звярнуцца да гісторыі апошніх гадоў, то можна заўважыць, што беларускія ўлады з зайздроснай упартасцю спрабавалі дазволіць шматлікія праблемы менавіта пры дапамозе ўзмацнення жорсткасці мер, закручвання гаек і г.д.

Прычыны таму - як негатыўнае у прынцыпе стаўленне кіраўніцтва краіны да рэформаў, так і палітычныя передумовы: на 2015 год прызначаныя прэзідэнцкія выбары, і ўзрушэнні на чале дзяржавы ў гэты перыяд асабліва непажаданыя.

**Эканоміка залішне зарэгулявана**

Большасць прадпрыемстваў дзяржсектара за апошнія дзесяцігоддзі прызвычаілася працаваць ва ўмовах нізкай канкурэнцыі, дзяржзакупак і бюджэтных датацый; эфектыўнасць працы толькі ў апошні час сталі вызначаць па колькасці продажаў, а не аб'ёмах выпуску.

Вырашыць праблемы толькі толькі нормамі дэкрэта будзе немагчыма. Без змены істотных умоў працы гэтых прадпрыемстваў і эканамічнай асяроддзя, у якой яны знаходзяцца, нічога не атрымаецца. На сённяшні дзень шматлікія праблемы магла б вырашыць палітыка, накіраваная на зніжэнне дзяржаўнага рэгулявання большасці сфер.

Да прыкладу, дзяржаўнае рэгуляванне цэн змушае многія прадпрыемствы працаваць у нуль, а то і зусім сыходзіць у мінус. Існуючыя механізмы тэндэраў і дзяржзакупак таксама зніжаюць эфектыўнасць і выніковасць працы шматлікіх прадпрыемстваў.

Такім чынам, прыняўшы дэкрэт № 5, улады паспрабавалі ў чарговы раз адтэрмінаваць ўжо даўно наспелыя структурныя пераўтварэнні. Аднак такія адтэрміноўкі кожны раз прыводзяць да ўзмацнення негатыўных фактараў.

**Мікіта Бяляеў**
**Чытаць цалкам: naviny.by**

ПОГЛЯД З МАСКВЫ

# «УБИТЬ КЛОУНА МОЖЕТ ТОЛЬКО РОЖДЕННЫЙ ОТ ЗВЕРЯ»

**Сначала в качестве преамбулы... Несколько лет я писал еженедельные свои посты на "Эхо Москвы". Я наивно считал, что кто-то к ним прислушивается. Я наивно заканчивал каждый свой пост фразой: «Будьте здоровы и держите себя в руках». Никто этих слов не слышал.**

Болезнь развивается по своим законам.

Если пациент отказывается от лечения, помочь ему нельзя. Возможно только принудительная госпитализация, а это чревато сроком. Все, все взаимосвязано в этом мире. Агрессия и зло не имеют границ. Зло наступает по всем фронтам. Зло под маской духовности и божественной справедливости. Неважно, в каком обличье Бог.

Война идет между здравым смыслом и безумием.

Убить средь бела дня невооруженных, безобидных, выполняющих свой профессиональный долг людей - у себя в стране, у себя дома – это чудовищный вызов и чудовищная несправедливость.

Убийство художников и журналистов – это вызов этой самой цивилизации и мировой культуре.

Убить клоуна может только рожденный от зверя.

Сказать, что эти нелюди были оскорблены – чистая глупость. Нечеловек не может быть оскорблен - у него нет этих чувств. Не объяснить им, этим нелюдям, что ответом на рисунок может быть только рисунок, ответом на слово может быть только слово. Рисовать карикатуры можно про все и на всех.

А про Холокост можно? – спрашивают часто меня некоторые граждане.

Рисуйте! Если вас смешит уничтожение миллионов в газовых камерах и это вас веселит – рисуйте... Я не буду призывать за это убивать вас, вы просто для меня будете существовать в другом пространстве и в другом мире. Как существуют многие в другом мире и в другом пространстве. Куда я не пойду. Куда я не хочу идти.

Это мой выбор.

Не ходите и вы в мой мир. В наш мир. Да еще с автоматом. Или с бейсбольной битой. Не смотрите спектакли моего (нашего) мира. Не читайте книги моего (нашего) мира. Я (мы) не ходим ведь в ваш мир?

Давайте на журналах, фильмах, программах спектаклей писать, кроме возрастных категорий, еще и список тех, кого это может оскорбить.

Впрочем, достаточно написать одну фразу «Это может оскорбить безграмотных идиотов». Но они, эти безграмотные идиоты, не примут это на свой счет. Они-то считают себя как раз грамотными и не идиотами.

Если в каком-то африканском племени оскорблением считается не проколотый большим кольцом или костью нос, то тогда что же, во всех европейских журналах надо прокалывать носы? Хотя бы в фотошопе?

И последнее.

Если сообщество мусульман России сочло, что грех кровопролития равен греху якобы провокации, то они – соучастники этого ужасного преступления. Рисовать и писать надо продолжать то, что считаешь нужным. Как это сделали сегодня французские журналисты и французские художники.

Мои соболезнования всем тем, кто был близок к погибшим. Закончу свой текст такой фразой: вы не здоровы. И вы не умеете держать себя в руках.

**Андрей Бильжо**
**«Эхо Москвы»**

КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ

# “ЧАРГОВЫ АКТ СПЭКТАКЛЮ ПРА СПРАВЯДЛІВАГА ЦАРА І НЯДБАЙНЫХ БАЯРАЎ”

**Як варта ацаніць кадравыя зьмены, праведзеныя Аляксандрам Лукашэнкам? Ці гэта прызначэньні, закліканыя змагацца выключана з цяперашнім эканамічным і валютным крызісам? Ці яны зробленыя з пэрспэктывай больш далёкай і больш важнай — а менавіта прэзыдэнцкай кампаніі?**

На гэтыя пытаньні адказвае кіраўнік аналітычны праектаў кампаніі БелаПАН Аляксандар Класкоўскі

**Цыганкоў:** На вашую думку, у чым асноўны сэнс і значэньне гэтых, бадай, самых радыкальных зьменаў у кіраўніцтве Беларусі за апошнія гады? Ці Аляксандра Лукашэнка мае на мэце толькі эканоміку ці ён глядзіць больш далёка — у прэзыдэнцкую кампанію?

**Класкоўскі:** Ведаеце, пра выбары Аляксандар Лукашэнка думае заўсёды. У шырокім сэнсе — ён дбае, як найлепей выглядаць перад электаратам. У гэтым сэнсе мы проста бачым чарговы акт вядомага старога спэктаклю пра справядлівага цара і нядбайных баяраў.

На гэты раз ён адным стрэлам забівае адразу некалькі зайцоў. Па-першае, сьпісвае апошнія фінансавыя праблемы на «ахвярных казлоў». Па-другое, рэсурс «новай мятлы». Я маю на ўвазе — каго б ён не прызначыў, спачатку людзі рвуць жылы, каб сябе пакавацьз лепшага боку. Тут імпульс ідзе сам па сябе, ад уліваньня сьвежай ці адносна сьвежай крыві. Ну і па-трэцяе, цяпер можна казаць электарату — «пачакайце, ня ўсё адразу, трэба даць час новым людзям, каб былі зьмены да лепшага».

Але ці будуць гэтыя зьмены — гэта пытаньне паўнамоцтваў. Я думаю, што перад выбарамі для Лукашэнкі вельмі рызыкоўна даваць такі карт-блянш, бо цяпер бязбольных рэцэптаў няма ў эканоміцы. Трэба выбіраць рэзкія, хірургічныя мэтады. Таму — ёсьць небясьпека, што сказаць: да выбараў усімі праўдамі і няпраўдамі трымайце гэты рубель, трымайце бачнасьць адноснай стабільнасьці ў эканоміцы.

**Цыганкоў:** У першых камэнтарах аглядальнікі адзначаюць, напрыклад, рынкавасьць і прафэсіяналізм новага кіраўніка Нацбанку. Якой эканамічнай палітыкі можна чакаць ад новых прызначэнцаў. Ці можна меркаваць, што да выбараў вялікіх кадравых зьменаў ужо ня будзе?

**Класкоўскі:** Вядома, пэрсаналіі граюць пэўную ролю. Але цяпер ня той час, каб ладзіць пэўныя акадэмічныя дыскусіі, вызначаць, які шлях патрэбны для беларускай эканомікі. Бо ў ёй ня зроблена элемэнтарнага — патрэбныя сыстэмныя рэформы, структурныя пераўтварэньні. Час толькі павялічвае вастрыню праблемы, дысбалянсы ў эканоміцы нарастаюць.

Пэрсона на чале ўраду ці Нацбанку мела б рэвалюцыйнае значэньне ў іншай, нармальнай палітычнай і эканамічнай сыстэме. У нас жа ўсё дэфармуецца тым, што сыстэма жорсткая, аўтарытарная і сыстэма пэрсаналісцкая. Таму, хто б не прыйшоў на тую ці іншую пасаду — яны будуць проста выканаўцамі найвышэйшай волі. Якую праграму закладзе ў гэты «кампутар» Лукашэнка — невядома. Я не выключаю, што калі далей будзе валіцца Расея, і ў нашай эканоміцы адпаведна будзе поўнае вар'яцтва — магчыма, яшчэ ні адна галава паляціць да прэзыдэнцкіх выбараў.

**Віталь Цыганкоў**
**http://www.svaboda.org**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 16.01.2015 у 19.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.